# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“)

(8) München 19. Schliessfach 69

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына** (іншыя эўрапэйскія краіны бяз Францыі й паўдзённаамэрыканскія краіны): год — 12,5 н. м.; **ЗША** й **Канада:** год — 6,5 дал.; **Ангельшчына** й **Аўстралія:** год — 30 шыл.; **Францыя:** год – 12,5 н. ф. **Паўгода — палавіна пададзенае цаны. Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,

Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 12 (612) — Лістапад, 1963 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 17


# Трагічная сьмерць Прэзыдэнта ЗША Кэнэды

**Палажэньне ў Амэрыцы**

Забойства прэзыдэнта Кэнэды ўстрасянула ня толькі палітычным сьветам. У Амэрыцы яно ўстрасянула сьветам прыватным, самейным, асабістым. Амэрыканцы улучна з учарашнімі палітычнымі апанэнтамі прэзыдэнта, перажывалі сьмерць Кэнэды як глыбокую нацыянальную трагедыю. Народ у гэты мамэнт стаў вышэй палітычных разыходжаньняў, задзіночыўся ў сэрцах над загінулым правадыром, узорным сем'янінам, сьмелым чалавекам, разважлівым палітыкам.

Але жыцьцё йдзе наперад, яшчэ раз паказваючы, што зьмена – адна зь ягоных няўхільных адзнакаў. А сьмерць прэзыдэнта Кэнэды зьменьвае шмат што, зьменьвае чалавека на чале вялікай дзяржавы, зьменьвае пэрспэктывы прэзыдэнцкіх выбараў 64-га году; зьменьвае пэрспэктывы далейшага разьвіцьця нутранога і, да некаторай ступені, — міжнароднага палажэньня.

Новы прэзыдэнт Амэрыкі – Ліндан Джонсан — дасюль стаяў вельмі блізка да агульнае палітычнае лініі Кэнэды. Назіральнікі выказваюць думку, што ён і надалей будзе прадаўжаць лінію Кэнэды. Але Джонсану застаецца няпоўны год прэзыдэнцтва. Лідар ён энэргічны й здольны, з багатым палітычным дазнаньнем. Але людзі ў Амэрыцы, амэрыканскі выбаршчык, уся амэрыканская палітычная філязофія, адзначаюцца прагматызмам. Людзі мусяць пераканацца, што чалавек на практыцы выяўляе тыя здольнасьці, якія назіральнікі бачаць у ім.

Прэзыдэнт Кэнэды гэтыя якасьці быў ужо выявіў. Ён меў за сабой тры гады ў Белым Доме. Ён меў асабістую сустрэчу з Хрушчовам, ён перажыў колькі суровых міжнародных крызісаў і выйшаў зь іх, паказаўшы станоўкасьць, розум, развашнасьць. Прэзыдэнт Кэнэды карыстаўся ў народзе вялізарнай асабістай сымпатыяй. Ён быў-бы бесьпярэчным кандыдатам ад Дэмакратычнае партыі ў наступных прэзыдэнцкіх выбарах. Магчымасьці прэзыдэнта Джонсана ў гэтым сэньсе пакуль-што ня тыя. І дзеля гэтага назіральнікі пачынаюць нанава ацэньваць палітычнае палажэньне Амэрыкі. Яны ўважаюць, прыкладам, што шансы Рэспубліканскае партыі ў наступных выбарах пабольшваюцца.

Словам, Амэрыка цяпер – у пераходным пэрыядзе. Застаюцца толькі нязьменнымі ейныя асноўныя жаданьні й асноўная палітыка: цьвёрды супраціў камуністычнай агрэсіі ў сьвеце й гатовасьць ісьці далей шляхам мірных перамоваў, па якім ішоў і прэзыдэнт Кэнэды.

**Палітычныя канцэпцыі Кэнэды**

Каб годна адзначыць памяць пакойнага прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў, найлепш прыгадаць ягоныя ўласныя словы, у якіх ён выказаў сваё стаўленьне да галоўных праблемаў, што хвалююць ўсё людзтва — свой пагляд на вайну й мір, свой пагляд на дачыненьні паміж заходнімі краінамі й краінамі савецкага блёку. Вось урыўкі зь ягонай прамовы на гэтую тэму, сказанай на выпускным акце вашынгтонскага ўнівэрсытэту 10 чэрвеня сёлета:

«Якраз сяньня й якраз тут я хачу закрануць тэму, пры абмяркоўваньні якой вельмі часта праяўляецца невуцтва й вельмі рэдка выяўляецца веданьне запраўднасьці. Гэта найважнейшая з усіх існуючых тэмаў: мір паміж народамі.

Які мір я маю на ўвазе? Якога міру мы шукаем? Ня міру, які быў-бы накінуты ўсім бяз вынятку краінам сілай амэрыканскай зброі. Не таго міру, які пануе на могільніку, не дабрабыту нявольнікаў. Я гавару аб запраўдным міры, аб тым міры, дзеля якога варта жыць на Зямлі, аб тым міры, які дазваляе й паасобным людзям і цэлым народам разьвівацца, спадзявацца й будаваць лепшае жыцьцё для сваіх дзяцей. Я гавару аб міры ня толькі для Амэрыканцаў, але й для ўсіх людзей, ня толькі аб міры ў нашыя часы, але аб міры вечным.

Я гавару аб міры таму, што вайна мае цяпер новае аблічча. Вайна – гэта бязглузьдзіца ў нашую эпоху, калі адзін, усяго толькі адзін ядзерны выбух быў-бы ў 10 разоў больш разбуральным, чымся ўсе бомбы, ськівутыя саюзьнікамі ў гады Другой сусьветнай вайны. Вайна — гэта бязглузьдзіца ў эпоху, калі сьмяротна-атрутныя ападкі, што паўстаюць пры ядзерных выбухах, былі-б разьнесеныя па ўсіх кутках зямное кулі, пагражаюць і будучым пакаленьням . . .

Я не гавару аб абсалютным паняцьці ўсеагульнага міру – паняцьці, аб якім усё яшчэ мараць некаторыя фантасты й фанатыкі. Каштоўнасьці спадзяваньняў і мараў я не запярэчваю, але калі-б мы бачылі ў іх нашую агульную й найблізэйшую мэту, гэта прывяло-б толькі да расчараваньняў.

Сканцэнтруем-жа нашую ўвагу на міры больш практычным, лягчэй асягальным, міры, які быў-бы заснаваны не на раптоўнай зьмене людзкой натуры, а на шэрагу канкрэтных дзеяньняў і запраўдных пагадненьняў у інтарэсах усіх бакоў.

Пры такім міры ўсё яшчэ застануцца спрэчкі й разыходжаньні інтарэсаў, як гэта бывае ў жыцьці паасобных сем'яў ці народаў. Усеагульны мір, падобна міру ў грамадзкай групе, зусім не патрабуе, каб кажны любіў свайго суседа. Ён патрабуе толькі таго, каб людзі былі талерантнымі адзін да другога й шукалі для сваіх разыходжаньняў справядлівае й мірнае разьвязкі. Гісторыя вучыць нас, што варажнеча паміж народамі, як і варажнеча паміж паасобнымі людзьмі, ня трывае вечна. Як-бы нашыя сымпатыі й антыпатыі не здаваліся глыбока закаранелымі, час часта выклікае надзвычайныя зрухі ў дачыненьнях паміж народамі й суседзямі . . .»



Прэзыдэнт Кэнэды працягваў:

«Мы павінны пераглядзець нашае дачыненьне да Савецкага Саюзу. Рукі апушчаюцца пры думцы, што ягоныя кіраўнікі запраўды вераць у тое, аб чым пішуць іхныя прапагандысты. Рукі апушчаюцца пры чытаньні нядаўна апублікаванай аўтарытэтнай савецкай працы з галіны ваеннай стратэгіі, дзе на кажнай старонцы знаходзяцца цалкам неабгрунтаваныя й няпраўдападобныя цьверджаньні, як, напрыклад, цьверджаньне, што 'амэрыканскія імпэрыялістычныя колы рыхтуюцца шырока ўжыць розныя віды вайны . . . што існуе рэальная загроза вайны прэвэнтыўнай, якую амэрыканскія імпэрыялістыя пачнуць супраць Савецкага Саюзу, каб дасягнуць сусьветнага панаваньня' . . .»

Праўда, даўно было сказана: «Грэшнік уцякае, калі за ім ніхто ня гоніцца». Усё-ж сумна чытаць такія савецкія выказваньні і ўсьведамляць, якое прадоньне ляжыць паміж намі. Але — гэта й перасьцярога, перасьцярога амэрыканскаму народу – не рабіць тэй памылкі, якую робяць савецкія кіраўнікі, не паддавацца адному выкрыўленаму й безнадзейнаму ўяўленьню аб другім баку, не ўважаць канфлікт няўхільным, пагадненьне недасягальным і што міжнародныя кантакты не даюць нічога, апрача абмену зьнявагамі, пагрозамі . . .»

Мы спадзяемся, — сказаў Кэнэды, – і гэта аднячасова мэта ўсёй палітыкі саюзных краінаў – пераканаць Савецкі Саюз, што й яму варта даць кажнай краіне выбар сваёй будучыні. Імкненьне камуністых накідаць іншым сваю палітычную й эканамічную сыстэму зьяўляецца асноўнай прычынай цяперашняга міжнароднага напружаньня. Няма сумлеву, што калі-б адны краіны паўстрымоўваліся ад умяшаньня ў самавызначэньне другіх, дык небясьпека вайны была-б куды меншай.

Неабходна зрабіць новыя высілкі, каб стварыць сусьветную законнасьць: новую падставу для разьвязаньня міжнародных разыходжаньняў.

На заканчэньне Кэнэды сказаў:

«Задзіночаныя Штаты, як гэта ўсе ведаюць, ніколі не пачнуць вайну першымі. Мы ня хочам вайны. Мы не чакаем вайны. Цяперашняе пакаленьне Амэрыканцаў убачыла дастаткова, больш чымся дастаткова войнаў, нянавісьці й прыгнечаньня. Але мы будзем гатовыя да вайны, калі іншыя захочуць яе. Мы будзем напагатове ў справах спыніць вайну. Але мы ўнясем таксама сваю частку ў пабудову такога грамадзтва, у якім слабы не патрабуе абароны, а моцны — справядлівы. У нас ёсьць магчымасьць справіцца з гэтым заданьнем і мы верым у посьпех».

## *ГЕРОЯМ*

**Ужо ўвайшло ў традыцыю, што ўгодкі Слуцкага Паўстаньня, ці дакладней — вайны збройных аддзелаў Беларускае Народнае Рэспублікі супраць расейска-бальшавіцкае акупацыі адзначаюцца намі як Дзень Герояў. Дзень тых, што сьведама йшлі на сьмерць у імя вялікае ідэі – ішлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына.**

**Бадай што кажная нацыя, кажная дзяржава мае законам устаноўлены дзень, прысьвечаны памяці тых, што йшлі паміраць за жыцьцё свае бацькаўшчыны. У нас ён узьнік спантанна, і пэўна застанецца ў вольнай дзяржаве, замацаваны законам.**

**Чын Случчакоў застанецца ў нашай гісторыі. Ён будзе сьвяціць прыкладам будучым пакаленьням нашага народу — пакаленьням, якім спадзяемся, не давядзецца ўжо браць зброі ў рукі дзеля абароны сваіх адвечных правоў. Але калі-б давялося, яны будуць мець перад вачыма вобраз Сыноў Случчыны – што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына.**

**Дзень Герояў . . . Колькі было іх — герояў – за тыя 43 гады, што мінулі ад геравічнага чыну Случчакоў? Колькі было іх у кажным кутку Беларусі? У бальшыні — нязнаных, сьціплых, не заўсёды апранутых у жаўнерскую форму. Тых, якія ведалі, што без ахвяры нельга здабыць свабоды для свайго краю. Хіба няма ніводнага між намі, каму ня ўсплыў-бы ў памяці хоць адзін твар – знаёмага, прыяцеля, блізкага.**

**Адзначаючы чын Случчакоў, сьхілімжа галаву перад імі і усімі – ведамымі і няведамымі.**

# Як адзначаецца на Беларусі паўстаньне 1863 году?

Як адзначаюцца на Беларусі сёлетнія сотыя ўгодкі беларускага народнага паўстаньня пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага? Каб адказаць на гэтае пытаньне, пачнем ад аналёгіяў.

Ведама, што некаторыя гістарычныя падзеі ў Савецкім Саюзе адзначаюцца вельмі шырака. Мы памятаем, як шумна было адзначанае летась 150-годзьдзе перамогі расейскай імпэрыяльнай арміі над францускай арміяй Напалеона. Гэтыя ўгодкі былі абвешчаныя як афіцыйнае сьвята. Быў змабілізаваны ўвесь партыйны і дзяржаўны апарат, усе сяродкі дзяржўнай прапагандовай машыны. Гіроніяй лёсу, ці, дакладней, крывадушнасьцяй маскоўскіх валадароў, якраз Беларусь была ператвораная ў арэну трыюмфу з прычыны перамогі над Французамі ў баёх на беларускай тэрыторыі.

Нічога падобнага мы ня бачым у сувязі з сёлетнімі сотымі ўгодкамі паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Да гэтага часу ня было чуваць аб якой-небудзь афіцыйнай праграме адзначэньня гэтага паўстаньня, не адбылося ніводнай афіцыйнай урачыстасьці, хоць палавіна юбілейнага году ўжо даўно прамінула.

Праўда, угодкі паўстаньня прыгадваюцца ў прэсе, але робіцца гэта як-быццам прыпадкова. Адценак прыпадковасьці носіць таксама дзейнасьць беларускіх культурных работнікаў, хоць у гэтым годзе яна і сканцэнтравалася прыкметна на асобе Кастуся Каліноўскага і падзеях 1863 году. Гэтак нядаўна на экранах беларускіх кінатэатраў зьявіўся пра Кастуся Каліноўскага дакумэнтальны біяграфічны фільм. Фільм гэты быў прыхільна ацэнены беларускай савецкай крытыкай. Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы падрыхтоўвае да пастаноўкі п'есу Уладзімера Караткевіча — «Кастусь Каліноўскі». Зьявілася ў гэтым годзе і новая навуковая літаратура пра паўстаньне. Трэба адзначыць грунтоўную працу Сьмірнова «Паўстаньне 1863 году ў Літве й Беларусі», выдадзеную сёлета ў Маскве Акадэміяй навук СССР у расейскай мове. Дзякуючы шырокаму выкарыстаньню ў сваёй новай кнізе арыгінальных гістарычных дакумантаў, Сьмірнову, які піша на гэтую тэму ня першы раз, удалося гэтым разам падыйсьці бліжэй да праўды ў ацэне характару і кірунку паўстаньня, хоць стаць на пазыцыі поўнай навуковай аб'ектыўнасьці ён ўсё яшчэ ня здолеў. У цытаваных дакумантах гістарычны тэрмін «Літва», там, дзе ён азначае Беларусь, нідзе Сьмірновам ня тлумачыцца, што неазнаёмленага ўводзіць у блуд. Затое, дзе ў дакумантах Каліноўскага сустракаецца «Маскаль» — Сьмірноў і далей стараецца ў дужках «паясьніць», што Каліноўскі меў тут на ўвазе не расейскіх акупантаў наагул, а толькі цара, царскае самаўладзтва . . .

Ня гледзячы на гэта, новая кніга Сьмірнова цікавая тым, што ён зрабіў спробу апраўдаць паўстаньне 1863 году на Беларусі і ў Літве і ягонага кіраўніка Кастуся Каліноўскага з пункту гледжаньня камуністычнай інтэрпрэтацыі працэсу. Спасылаючыся на выказваньні «клясыкаў» камунізму, Сьмірноў робіць

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Новы Прэзыдэнт ЗША

Новы прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Ліндан Джонсан стаіць цяпер у цэнтры ўвагі ўсяго сьвету. Пытаньне аб тым, што гэта за чалавек і якую палітыку ён будзе праводзіць цікавіць усіх — ня толькі прафэсыйных палітыкаў, але й звычайных грамадзян. Даць поўны адказ на гэтыя пытаньні – покуль-што цяжка, але ў пэўнай ступені адказам можа служыць само жыцьцё гэтага чалавека, ягоная дзейнасьць і пагляды.



*Ліндан Джонсан, калі быў віцэпрэзыдэнтам, прыймаў у Вашынгтоне беларускую дэлегацыю на чале з Архіяпіскапам БАПЦ Ул. Васілём*

Ліндану Джонсану цяпер 55 гадоў. Ён нарадзіўся ў Тэксасе, у небагатай сям'і, асьвету атрымаў у тэксаскім каледжы і на вячэрніх курсах вышэйшай школы права ў Джорджтаўне. Першы раз Джонсан быў выбраны ў Кангрэс у 1937-ым годзе — у палату прадстаўнікоў – і ад таго часу ён быў перавыбраны пяць разоў.

У часе другой сусьветнай вайны Джонсан – першы зь сяброў Кангрэсу — накіраваўся на фронт, браў удзел у ваенных дзеяньнях у якасьці лётніка марской авіяцыі ды быў узнагароджаны за мужнасьць.

У 1960-ым годзе, калі на зьезьдзе дэмакратычнай партыі выбіраўся кандыдат ад дэмакратаў на становішча прэзыдэнта, паводля атрыманых галасоў Джонсан быў на другім месцы пасьля Кэнэды: за Кэнэды галасавала восемсот шэсьць, за Джонсана — чатырыста дзевяць удзельнікаў зьезду. Тады-ж, у 1960-ым годзе, Джонсан быў выбраны на становішча віцэпрэзыдэнта.

У якасьці віцэпрэзыдэнта Джонсан быў часта запрашаны ў Белы Дом і браў удзел ува ўсіх важных палітычных нарадах. Яму даваліся таксама адказныя дыпляматычныя заданьні. Прыкладам, у травені 1961-га году Джонсан езьдзіў у Ляос. У жнівені таго-ж году, пасьля таго, як быў збудаваны ведамы бэрлінскі мур, Джонсан наведаў Заходні Бэрлін. У абодвух гэтых выпадках галоўным заданьнем Джонсана было прадэманстраваць наважанасьць Задзіночаных Штатаў супраціўляцца камуністычнай агрэсіі.

У прыватнасьці, выступаючы ў Заходнім Бэрліне, Джонсан сказаў: «Незалежна ад таго, як разгорнуцца падзеі, мы заўсёды будзем абаронцамі свабоды. Мы ніколі ня выклічам інцыдэнтаў, ніколі ня выявім ваяўнічасьці, але заўсёды з гонарам выканаем наш абавязак.»

Прыгадаем некаторыя іншыя выказваньні цяперашняга прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў.

Выступаючы ў лютым сёлета ў Атлянтык Сіты на зьезьдзе амэрыканскай асацыяцыі дырэктароў школаў, Джонсан выказаў упэўненасьць у канчальную перамогу ідэяў свабоды й дэмакратыі. «Сусьветны гістарычны працэс разьвіваецца ў нашую карысьць, – сказаў тады Джонсан. Нашая вытрываласьць, нашая магутнасьць — гэта гарантыя канчальнага посьпеху.» З другога боку, – у камуністычным лягеры дзеюць сілы дэзінтэграцыі.

Сёлета ў травені Джонсан выступаў у Гэтызбургу на ўрачыстым сходзе ў дзень памяці загінуўшых у грамадзянскай вайне паміж Паўночнымі і Паўдзённымі штатамі.

Свой выступ Джонсан прысьвяціў палажэньню амэрыканскіх Нэграў. У прыватнасьці, Джонсан сказаў: «Дамагацца ад Нэграў цярпялівасьці, гэта значыць дамагацца ад іх яшчэ большай ахвярнасьці. А тымчасам, яны ўжо цяпер выяўляюць немалую ахвярнасьць.» І Джонсан дамагаўся хутчэйшага спыненьня ўсякай расавай дыскрымінацыі.

У ліпені сёлета Джонсан браў актыўны ўдзел у перамовах Кэнэды зь лідэрамі грамадзкіх арганізацыяў і энэргічна падтрымоўваў запрапанаваную прэзыдэнтам Кэнэды рэалізацыю грамадзкіх правоў Нэграў.

Калі Джонсан пераняў становішча прэзыдэнта, адным зь ягоных першых крокаў было ўпаўнаважаньне дзяржаўнага сакратара Раска паведаміць замежным урадам, што вонкавая палітыка Злучаных Штатаў застаецца бязь зьменаў. І гэты свой намер працягваць вонкавапалітычны курс Кэнэды, Джонсан пацьвердзіў і ў гутарцы зь Мікаянам, якая адбылася на другі дзень пасьля пахаваў прэзыдэнта Кэнэды.

**ДА ЎВАГІ НАШЫХ ПАДПІШЧЫКАЎ У ЗША**

**Гэтым яшчэ раз напамінаем і ласкава просім нашых падпішчыкаў у ЗША, якія газэту непасярэдня атрымоўваюць зь Мюнхэну, сваю залегласьць заўсёды ўрэгулёўваць у нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча, пераказваючы грошы на наступны ягоны адрас:**

Mr. B. Danilovich
303, Howard Str.,
New Brunswick, N. J.

**Адміністрацыя**

**ЯК АДЗНАЧАЕЦЦА НА БЕЛАРУСІ ПАЎСТАНЬНЕ 1863 г.**

(Заканчэньне зь 1-ай йбач.)

высnaў, што выразны нацыянальна-вызвольны характар паўстаньня ня толькі не пярэчыць марксызму-ленінізму, але цалкам адпавядае камуністычнаму гістарычнаму аналізу; што з пункту гледжаньня камуністычнай тэорыі ўсе аспэкты паўстаньня Каліноўскага маюць толькі пратрэсыўны характар.

Здавалася-б, што пасьля такой ацэны паўстаньня аўтарытэтнымі навуковымі ўстановамі партыя мусіла-б зьмяніць сваё стаўленьне да яго, мусіла-б паўстаньне цалкам рэгабілітаваць і дазволіць шырака й зусім афіцыйна адзначаць яго, як вялікую падзею ў гісторыі Беларусі.. Гэтага, аднак, не адбылося.

**М. К.**

# У спрэчках нараджаецца праўда

Паводля цьверджаньняў камуністычных, а перш за ўсё савецкіх тэарэтыкаў, нацыянальная варажнеча ўласьцівая толькі гэтак званаму «капіталістычнаму» сьвету. Толькі «капіталізм», кажуць яны, завайстрае й распальвае гэтую варажнечу, спрычыняецца да паняволеньня аднаго народу іншым. І толькі існуючы цяпер камуністычны лад, цьвердзяць яны. цалкам разьвязаў гэтыя праблемы, зьліквідаваў нацыянальную варажнечу. Пры гэтым савецкія тэарэтыкі нацыянальнага пытаньня звычайна паклікаюцца на прыклад Савецкага Саюзу, дзе быццам, зьнікла нацыянальнае паняволеньне й запанавала дружба народаў.

Гэтую прапагандовую тэзу аб прыязьні народаў у «сацыялістычных» краінах апошнім часам пачалі моцна падважваць самі камуністыя. Кітайска-савецкі канфлікт паказаў, што тэорыя пра прыязьнь паміж «сацыялістычнымі нацыямі» далёкая ад ейнай рэалізацыі ў камуністычным блёку. Зьнішчальны ўдар па гэтых камуністычных догмах зрабіла ўзаемная крытыка нацыянальнай палітыкі Савецкага Саюзу й Кітаю, разгарнутая апошнім часам на старонках кітайскай і савецкай прэсы, ды ўзаемныя абвінавачаньні ў імпэрыялізьме й шавінізьме.

Сярод закідаў, якія высунулі Кітайцы супраць савецкага рэжыму, адно з важнейшых месцаў займае цьверджаньне, што гэты рэжым прасякнуты вялікадзяржаўным шавінізмам і нацыяналізмам, ды што ён накідае гегемонію аднаго народу іншым народам.

Напрыклад, тэма савецкага вялікадзяржаўнага шавінізму і нацыяналізму была шырока тлумачаная ў адказе кітайскіх камуністых кіраўніку францускіх камуністых Торэзу. Коратка можна сказаць: Кітайцы запярэчваюць савецкім цьверджаньням, што ў Савецкім Саюзе існуе прыязьнь народаў і закідаюць савецкаму рэжыму вялікадзяржаўны імпэрыялізм і шавінізм.

Дакладна такімі-ж самымі аргумантамі ў змаганьні зь кітайскімі праціўнікамі паслугоўваецца і савецкая прапаганда. Савецкая прэса шмат піша пра нацыянальныя перасьледы ў Сіньцзянаўгурскім аўтаномным раёне й пра нацыянальнае змаганьне за вызваленьне спад кітайскага прыгнёту. Паводля цьверджаньняў савецкай прэсы, гэтае змаганьне ў прыгаданым раёне вядуць Уйгуры, Казахі, Узбэкі і Кіргізы. Варта прыгадаць, што гэтае змаганьне якое, запраўды вядзецца ўжо доўгія гады, да гэтага часу савецкая прэса прамоўчвала. Спачатку ўцекачоў, якія пераходзілі на савецкай граніцы ў Савецкі Саюз, адпраўлялі назад, а то проста выдавалі ў рукі Кітайцаў. Толькі пачынаючы ад 1959-га году, гэта значыць, калі савецка-кітайскі канфлікт завайстрыўся, савецкія ўлады пачалі даваць азыль уцекачом зь Кітаю.

Савецкая прэса таксама раптам прыгадала індыйска-кітайскі канфлікт і вайну ў Тыбэце. Усе гэтыя факты савецкая прапаганда выкарыстоўвае дзеля таго, каб даказаць, што Кітайцы — вялікадзяржаўныя шавіністыя, што яны панявольваюць іншыя народы.

Як бачым, абодва бакі паслугоўваюцца амаль аднолькавымі аргумантамі: адзін другому закідае вялікадзяржаўны шавінізм, імпэрыялізм ды панявольваньне іншых народаў.

Можна было-б паставіць пытаньне: хто зь іх мае слушнасьць у сваіх закідах?

Адказваючы на яго, трэба прызнаць, што тут, вынятkова, слушнасьць маюць абодва бакі, бо нацыянальнае пытаньне як у Савецкім Саюзе, так і ў Кітаі да гэтага часу «разьвязаныя» толькі на паперы. Факты паказваюць, што як расейскі, так і кітайскі камунізм не разьвязаў, а толькі паглыбіў нацыянальныя супярэчнасьці паміж народамі сваіх імпэрыяў. І гэта ў той час, калі гэтак званыя «капіталістычныя» краіны ідуць па шляху ліквідацыі рэштак ўсякага каляніялізму.

Вось да якіх абсурдаў давёў камуністычны таталітарызм у Савецкім Саюзе й Кітаі інтэрнацыянальныя ідэі клясычнага сацыялізму...



*Новы Прэзыдэнт ЗША Джонсан над труной Прэзыдэнта Кэнэды*

# Забойца Прэзыдэнта

Якраз у той час, калі па вуліцах сталіцы Задзіночаных Штатаў Вашынгтону праходзіла ўрачыстая працэсія, якая суправаджала труну зь целам нябожчыка Прэзыдэнта Джона Кэнэды зь Белага Дому у Капітоль – будынак Амэрыканскага Кангрэсу, з гораду Далясу ў Штаце Тэксас прыйшло паведамленьне: Лі Освальд — чалавек абвінавачаны ў забойстве Прэзыдэнта – быў цяжка паранены і ў хуткім часе памёр у тым-жа шпіталі, дзе ў пятніцу ўвечары памёр Прэзыдэнт Кэнэды.

Замах на Освальда быў зроблены ў той час, калі яго павінны былі перавесьці з гарадзкой турмы ў акруговую.

Мінулае Освальда нязвычайнае. У 1957 годзе 17-цігадовым юнаком ён запісаўся дабраахвотнікам у амэрыканскую марскую пяхоту. Але ягоная ваенная кар'ера скончылася няўдала. Праз два гады ён дэмабілізаваўся, а пазьней быў выключаны із складу рэзэрвы, як «непажа-

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

П. Залужны

# Абаронца расейскага імпэрыялізму

У 9-м нумары часапісу «Полымя» за бягучы год гісторык беларускай літаратуры Сьцяпан Майхровіч зьмясьціў артыкул пад назовам «Выдатны помнік сусьветнай літаратуры. Да 775-годзьдзя „Слова аб палку Ігаравым"". Цікавасьць да гэтага артыкулу вынікае галоўным чынам у сувязі з палітычна-гістарычнымі канцэпцыямі самога аўтара.

Мы ня будзем тут закранаць пытаньне, якому народу належыць гэты запраўды выдатны літаратурны помнік. Згодна С. Майхровіча — гэта твор «трох братніх усходнеславянскіх народаў — расейскага (пастаўлены на першым месцы) беларускага й украінскага», і, паводля ягонай гістарычнай канцэпцыі «адзінага рускага народу». Палітычная нацяжка С. Майхровіча ў гэтым выпадку выразная, але ён ідзе шмат далей, паўтараючы й іншыя прарасейскія канцэпцыі адносна гісторыі Беларусі.

С. Майхровіч прытрымоўваецца таго пагляду, што прынамся да XIII стагодзьдзя й нягледзячы на шмат ранейшы працэс «феадальнага распаду» Кіеўскай Русі — ў дзяржаўным і нацыянальным сэньсе на ўсходзе Эўропы існаваў «адзіны рускі народ». Гэтую сваю тэзу ён паўтарае неаднаразова ды з гэтае прычыны з абурэньнем адклікаецца пра тыя падзеі, якія спрычыняліся да названага «феадальнага распаду» Кіеўскай Русі, неразьдзельнай дзяржаўнай часткай якой было быццамбы й Полацкае княства. З гэтае прычыны ён паслугоўваецца таксама тэрмінамі пазьнейшага походжаньня, як «сэпаратызм», «свавольства» й «раскольнікі», сьkіроўваючы іх пераважна супраць Полацкага княства й полацкіх князёў; паўтарае неабаснаваныя цьверджаньні, быццам Усяслаў Чарадзей змагаўся не за захаваньне самастойнасьці й расшырэньне Полацкага княства, але за «свае правы на залаты кіеўскі пасад»; а пры аналізе «Слова аб палку Ігаравым» галоўную ўвагу зьвяртае не на літаратурна-эстэтычны бок гэтага помніка, але на гэтак званы «агульнарускі патрыятызм» ягонага аўтара.

На недарэчнасьць першай з гэтых савецкіх канцэпцыяў у свой час зьвяртаў увагу ведамы савецкі гісторык М. Пакроўскі. Пайменна ён пісаў, што «гаварыць пра адзінае рускае гаспадарства ў кіеўскую эпоху можна толькі па выразнаму недаразуменьню». Маючы на ўвазе Полацкае княства й адносіны апошняга да Кіеўскай Русі, падобную думку пазней выказаў таксама й іншы савецкі гісторык А. Насонаў (гл. «Русская земля' и образование территории древно-русского государства». Масква, 1951) Аднак гэтая канцэпцыя пра «адзінае рускае гаспадарства» й «адзіны рускі народ» стала бытуе ў савецкай гістарыяграфіі й яе, як бачым, усяляк абараняе таксама й С. Майхровіч. На чым-жа базуецца апошняя канцэпцыя?

У «Повесці временных лет» пад 907 годам запісана, што ў гэтым годзе кіеўскі вялікі князь Алег зарганізаваў «вялікі паход» на Канстантынопаль і ў выніку «ўдачы» заключыў зь бізантыйскімі імпэратарамі ўмову, у якой упамінаецца таксама й апрычоная ўмова Бізантыі з Полацкам, «сущім под Олегом». Аднак ні гэтага паходу, ні падобных умоваў гісторыя Бізантыі ня знае Захаваная-ж ведамка пра названы паход і ўмову ў «Повести временных лет», якая была напісана ў Кіеве роўна праз 20 гадоў пазьней, мае ў сябе легендарныя ведамкі як з паходу на Канстантынопаль 860 году, так і з паходу таксама на Канстантынопаль князя Ігара 941 году. Гэтыя ведамкі кіеўскі летапісца ўзяў зь бізантыйскіх хронікаў ды, паслугоўваючыся апісаньнямі змаганьня баўгарскага цара Сымона супраць Бізантыі ў 922 годзе (між іншым гэты паход Алега на Канстантынопаль у ноўгарадзкіх летапісах запісаны пад 922 годам), стварыў новую легенду пра паход на Канстантынопаль у 907 годзе.

Такім чынам паходу на Канстантынопаль у 907 годзе ніякага ня было. Гэты факт таксама робіць сумлеўнай і ўмову, быццам-бы заключаную ў 907 годзе між Кіевам і бізантыйскімі імпэратарамі. Бязумоўна, тая ці іншая ўмова магла існаваць, але не такога характару, як пра гэта паведамляе кіеўскі летапісца. У «Повести временных лет» паведамляецца, што названая ўмова была навязана бізантыйскім імпэратарам сілай зброі й што апошнія ня толькі былі змушаныя выплаціць Алегу вялікую кантрыбуцыю, але й пайсьці на падпісаньне выгаднай для Кіева гандлёва-палітычнай умовы, у тым ліку й на надпісаньне асобных гандлёвых умоваў з пасобнымі гарадамі, паміж якіх знаходзіўся й Полацак. Не гаворачы ўжо пра адсутнасьць падобнае «сілы зброі» й такім парадкам пра адсутнасьць кантрыбуцыі й дадатковых «укладаў на рускія гарады», больш дакладны аналіз пададзенае ў «Повести временных лет» умовы 907 году прыводзіць да высnaву, што пункты пра ваенную кантрыбуцыю й «уклады на рускія гарады» былі самавольна ўведзеныя кіеўскім летапісцам. Гэта падцьвярджаецца як стылёвымі й моўнымі асаблівасьцямі дадзенае ўстаўкі, так і тым, што названая ваенная кантрыбуцыя тут пералічана ў тагачаснай славянскай валюце

# Дапамаговыя гаспадаркі калгасьнікаў

Права мець асабістую дапамаговую гаспадарку было здабыта калгасным сялянствам ў выніку ўпартага змаганьня супраць гвалтоўна накінутай калектывізацыі. Гэта была вымушаная ўступка сялянству з боку камуністычнай партыі, кампраміс, які фактычна парушыў прынцып сацыялізацыі ўсёй сельскай гаспадаркі.

Згодна статуту сельскагаспадарчай арцелі, кажная калгасная сям'я мае права карыстацца прысядзібнай дзялянкай ад 0, 25 да 0,50 гэктара і мець адну карову, сьвіню, дробную жывёлу і дамашнюю птушку. Пасьля правядзеньня суцэльнай калектывізацыі, ужо ў 1939 годзе было дазволена работнікам і служачым, якія жывуць на вёсцы, мець прысядзібную дзялянку да 0,15 гэктара і дробную жывёлу. Такая ўвага да работнікаў і служачых з боку кіраўніцтва партыі і ўраду была выкліканая неабходнасьцяй перавесьці іх на самазабясьпячэньне, бо ў тыя часы ніякая харчовая прадукцыя на вёску не завозілася.

Па ўсім Савецкім Саюзе пад прысядзібнымі дзялянкамі занята 6,74 мільёна гэктараў, або ўсяго толькі 3,3 працэнта агульнай саюзнай пасяўной плошчы. Прысядзібныя дзялянкі й дапамаговая гаспадарка калгасьнікаў, работнікаў і служачых у дзяржаўнае плянаваньне не ўваходзяць. Гэтыя гаспадаркі кіруюцца й апрацоўваюцца самымі ўласьнікамі без дзяржаўнага ўплыву. Прыватным гаспадаркам ня выдаецца ніякая дзяржаўная дапамога. У большасьці калгасаў навет жывёла калгасьнікаў не забясьпечваецца грубымі кармамі. Як трымаюцца дапамаговыя гаспадаркі калгасьнікаў, работнікаў і служачых, гэта нікога ня цікавіць, апрача самых іхных уласьнікаў.

Між тым, хоць фармальна дапамаговыя, яны прымушаны ўдзельнічаць у здачы сваёй прадукцыі дзяржаве ў парадку так званага «грамадзкага абавязку». Так, у 1962 годзе дапамаговыя гаспадаркі здалі дзяржаве бульбы 26 працэнтаў усіх нарыхтовак, жывёлы й птушкі — 14, воўны — 15, яек — 34 працэнты ўсіх дзяржаўных нарыхтовак.

Дзяржаўныя й каапэрацыйныя арганізацыі ніяк ня могуць забясьпечыць жыхараў гарадоў такімі прадуктамі, як бульба, гародніна, садавіна, малако, яйкі й навет мяса. Было падлічана, што ў 1962 годзе сем'і работнікаў і служачых гарадоў і прамысловых цэнтраў набылі на калгасных рынках 60 працэнтаў патрэбнай дзеля харчаваньня бульбы, палову садавіны, чвэрць гародніны і палову яек.

Такім чынам дапамаговыя гаспадаркі калгасьнікаў, рабочых і служачых у значнай ступені прымаюць удзел у забясьпячэньні насельніцтва гарадоў неабходнай сельскагаспадарчай прадукцыяй. Аднак, асабліва апошнімі часамі, пад выглядам змаганьня з спэкуляцыяй і высокімі цэнамі ў Савецкім Саюзе значна павялічыліся перашкоды пры продажу калгасьнікамі сваёй прадукцыі. Кіраўнікі калгасных рынкаў на працягу аднаго дня па некалькі разоў мяняюць устаноўленыя на прадукцыю цэны. Органы міліцыі патрабуюць ад прадаўцоў прадукцыі калгасьнікаў і работнікаў спэцыяльных даведак, што прадукцыя імі прадаецца з сваіх уласных прысядзібных дзялянак. З свайго боку савецкая прэса не скупіцца на мянушкі. Звычайна тых, што збывае свае прадукты на калгасных рынках называюць «хапугамі», «абдзіраламі», «дармаедамі», а прадаўцоў дамашняй птушкі — «сьцярвятнікамі». Ёсьць навет прапановы забараніць збываць сельскагаспадарчую прадукцыю на рынках, а прадаваць усё толькі каапэрацыйным арганізацыям.

Посьпехі вытворчасьці сельскагаспадарчай прадукцыі на вельмі маленькіх дапамаговых гаспадарках камуністычнай прэсай трактуюцца як імкненьне калгасьнікаў, работнікаў і служачых да індывідуальнай уласнасьці. У друку выказваецца жаль, што зь вірусам уласнасьці значна цяжэй змагацца, чымся з малярыйным камаром.

Ці адпавядае запраўднасьці, што толькі нястрымнае імкненьне да ўласнасьці заахвочвае трымацца за сваю асабістую маленькую гаспадарку? Камуністычнае кіраўніцтва й савецкая прэса заўсёды цьвердзіць, што праца ў калгасе забясьпечвае калгаснай сям'і ўстойлівае й багатае існаваньне і спакойную старасьць. Між тым, бясспрэчныя факты сьветчаць, што аплата працы ў калгасах з рэдкімі вынняткамі няўстойлівая, вельмі нізкая і залежыць ад шматлікіх выпадковасьцяў.

Параўнальна нядаўна савецкімі эканамістымі было праведзена абсьледваньне аплаты працы ў калгасах. Высьвятлілася, што ў 1957 годзе толькі 10 працэнтаў калгасаў адлічвала на аплату працы калгасьнікам менш 30 працэнтаў ад грашовых прыбыткаў калгасаў. У 1961 годзе колькасьць калгасаў з нізкай аплатай працаднёў павялічылася ўжо да 32 працэнтаў. У сярэднім калгасьнікі атрымліваюць ад 12 да 50 кап. на працадзень.

Між тым ад калгасьнікаў увесь час патрабуюць толькі падняцьця прадукцыйнасьці працы. Замест плянавых заданьняў нарыхтовак рознай прадукцыі, збожжа, мяса, малако й іншыя нарыхтоўкі выконваюцца паводля сацыялістычных забавязаньняў, якія арганізуюцца на мясцох партыйнымі камітэтамі. Нізкая аплата за здадзеную дзяржаве калгасамі прадукцыю і сацыялістычныя забавязаньні абясцэньваюць ня толькі грашовую, але й натуральную аплату працы калгасьнікаў.

Нізкая й няўстойлівая аплата працы ў калгасах ёсьць асноўнай прычынай імкненьня мець дапамогавую гаспадарку з тым, каб у вольны час забясьпечыць калгасную сям'ю неабходнымі прадуктамі, а пры спрыяльных умовах мець дадатковы прыбытак ад продажу лішкаў на калгасным рынку.

Неспакойнае й незайздроснае калгаснае жыцьцё зьяўляецца другой прычынай адданасьці калгасьнікаў сваёй асабістай гаспадарцы. Імкненьне да вольнай працы на ўласнай зямлі і да гэтага часу трывала існуе ў сьведамасьці падсавецкага селяніна. Вось чаму ў выніку ініцыятыўнай і сьведамай працы ўласьнікі дапамаговых гаспадарак дасягаюць значна большых вынікаў, чымся у сацыялістычных калгасах і саўгасах.

**В. Б.**

# „Будучыня капіталізму"

Сацыялістычны лягер няўхільна разьвіваецца ў кірунку паліцэнтрызму. Да такога выснаву прыходзіць францускі эканамісты Робэр Фосар у сваёй кнізе «Будучыня капіталізму».

Робэр Фосар — сацыялісты, і ўсе ягоныя сымпатыі на баку сацыялізму. Ён акрэсьлівае капіталізм і сацыялізм такімі тэрмінамі, як і камуністыя. Так, прыкладам, для яго сацыялізм — гэта сацыяльная арганізацыя, базаваная на калектывізацыі сродкаў вытворчасьці. І ўсё-ж-такі высновы Фосара адносна будучыні капіталізму і сацыялізму ня зыходзяцца з выснавамі дагматычнага камунізму. Будучы праціўнікам капіталізму, францускі эканамісты ўсё-ж уважае, што капіталізм адыходзіць ад «небясьпекі крызісу».

Першы разьдзел свае кнігі Фосар прысьвячае не капіталізму, а краінам сацыялістычнага лягеру, змаганьне зь якімі, маўляў, у значнай ступені і вызначае лёс капіталізму. У першым разьдзеле кнігі «Будучыня капіталізму» Робэр Фосар сьцьвярджае: «Дасюль сацыялізм перамог галоўным чынам у краінах прамыслова слабаразьвітых. Толькі Чэхаславаччына і Усходняя Нямеччына былі прамыслова разьвітымі краінамі.»

Далей ён піша: «Накопліваньне капіталу, укладанага ў фабрыкі, машыны і транспарт доўга йшло за кошт прадуктаў харчаваньня. Частка народнага прыбытку, якая заставалася для харчаваньня, узрастала вельмі паволі, а ў пэўныя крытычныя пэрыяды нават войстра зьмяншалася, напрыклад у часы калектывізацыі ды ў часы другой сусьветнай вайны. Акрамя таго, і распадзел быў не раўнамерным. Чыноўнікі партыйнага і дзяржаўнага апарату знаходзіліся ў прывілеяваным становішчы, — таксама, як і работнікі-стаханаўцы. Становішча-ж усёй масы работнікаў і сялянаў было вельмі, вельмі цяжкім».

Паводля словаў прафэсара Фосара, гэтая фаза першапачатковага накапленьня, як відаць, закончылася яшчэ да 50-га году. Ад таго часу ў вагульным кірунку савецкай эканамічнай палітыкі пачынае заўважацца паварот. Шмат установаў, створаных паміж 25-ым і 50-тым гадамі было рэаргарнізавана. Гэтае разьвіцьцё закранула ня толькі арганізацыю эканомікі, пачалося таксама змаганьне зь бюракратызмам, які вельмі пашырыўся ў стадыі першапачатковага накапленьня.

Пасьля ў сваёй кнізе «Будучыня капіталізму» Фосар піша:

«У Савецкім Саюзе колькасьць людзей зь сярэдняй асьветай няспынна павялічаецца. Адукаванымі людзьмі ня можна кіраваць так, як можна было кіраваць сялянамі ў 20-ых гадох. І таму лібэралізацыя няўхільная. Рознымі шляхамі народныя дэмакратыі эвалюцыянуюць у гэтым кірунку. Аднак там працэс агульнае лібэралізацыі суправаджаецца ростам антырасейскіх, нацыяналістычных настрояў ды падпаданьнем інтэлігенцыі пад заходні ўплыў. Толькі Кітай і азіяцкія краіны гэтак званай народнай дэмакратыі стаяць супраць працэсу лібэралізацыі. Кітай яшчэ ня выйшаў із сярэднявечча сацыялізму, затое ў Савецкім Саюзе гэты сярэднявечны пэрыяд закончыўся.»

Робэр Фосар працягвае: «Розьніца ўзроўню эканамічнага разьвіцьця ў паасобных краінах яшчэ доўга будзе характэрнай рысай сацыялістычнага лягеру. Кажная сацыялістычная краіна будзе шукаць свайго ўласнага шляху, які найбольш падыходзіць да ейнага нацыянальнага разьвіцьця. Гэтыя пошукі няўхільна вядуць да дыфэрэнцыяцыі формаў арганізацыі кіраўніцтва прамысловымі і сельска-гаспадарчымі прадпрыемствамі, што, у сваю чаргу, прыводзіць да стварэньня новых палітычных формаў.

Фосар адзначае, што ўжо цяпер у гэтым сэнсе паміж сацыялістычнымі краінамі ўзьніклі паважныя разыходжаньні, хоць яны яшчэ толькі нядаўна пазбыліся сталінскай апекі. Ад Югаславіі да Кітаю сацыялізм становіць сабой шырокі спэктар разыходжаньняў. Назваць гэта паліцэнтрызмам, як прапануе Тольяты, ці адмовай далучацца да палітыкі блёкаў, як кажуць Югаславы — гэта няважна. Важнае, што ў будучыні сацыялізм штораз больш будзе адрозьнівацца ў кажнай краіне.

Далей у сваёй кнізе «Будучыня капіталізму», Робэр Фосар піша: «Плюралізм сацыялістычных эканамічных тыпаў — гэта бясспрэчны факт. Затое менш кідаецца ў вочы, гэтаксама бясспрэчны плюралізм **палітычных** сацыялістычных рэжымаў. Звычайна зьвяртаюць увагу на агульныя рысы: панаваньне камуністычнай партыі, чыста дэкаратыўная роля заканадаўчых установаў, сыстэма адзінае лісты на выборах і гэтак далей. Перанятая ад сталіншчыны аднапартыйная сыстэма ня можа сама сябе зьліквідаваць. Вось чаму праявы новых формаў палітычных дыскусіяў ідуць накольнымі шляхамі, а не афіцыйнымі.»

У іншым месцы прафэсар Фосар піша наступнае: «Але ўсё-ж то тут то там выяўляюцца новыя элементы. У Югаславіі і Польшчы выбары з загадзя сфабрыкаванымі вынікамі, дзе звычайна падавалася амаль 100 працэнтаў галасоў за кандыдатаў камуністычнай партыі, цяпер ужо не зьяўляюцца правілам. На розных узроўнях сацыяльнай і эканамічнай арганізацыі ўжо вызначаюцца новыя варыянты: работніцкія рады ў Югаславіі і ў Польшчы, узмацненьне ўплыву спэцыялістых ў эканамічных арганізацыях, ды спэцыфічныя формы мясцовай аўтаноміі ў Югаславіі.

Прафэсар Фосар выказвае такую думку: «Зразумела, што рэформы будуць увесь час пашырацца, хоць будуць таксама адхіленьні назад да бюракратызму і цэнтралізацыі. Але перамога рэформаў ня будзе аднолькавай у розных краінах. Гэта яшчэ больш узмоцніць разыходжаньні ў палітычным ладзе, які вызначыўся ўжо цяпер...»

«Сацыялістычны маналіт памёр у 1945 годзе, калі закончыўся пэрыяд сацыялізму ў аднэй краіне. Аднак, яго не пахавалі разам, зь ягоным галоўным абаронцам — Сталінам. Установы і ідэялёгіі звычайна перажываюць умовы, у якіх яны нарадзіліся. Але адміраньне гэтых перажыткаў пачалося. У наступных дзесяцігодзьдзях сацыялістычны лягер будзе штораз больш разрозьнівацца эканамічна, палітычна, сацыяльна, ідэялягічна. Паліцэнтрызм зойме месца маналіту. Таму, што ў кажнай краіне трэба вырашаць **розныя** праблемы, дык будуць і **розныя** формы сацыялізму.

Фосар падсумоўвае: «Такім чынам, сяньня сацыялізм зьяўляецца гамай дасьветчаньняў, што разьвіваюцца на агульнай базе абагуленьня сродкаў вытворчасьці, але дасьветчаньняў розных паводля свае якасьці, рытму і палітычнай прафэсыйнасьці.

# Над магілай добрага Пастыра

1 кастрычніка ў Лорэвін каля Кліўленду (ЗША) нечакана адыйшоў у вечнасьць сьв. пам. а. Еўфімі Якіменка. Пакойны належаў да юрысдыкцыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы быў першым настаяцелем парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе.

Нарадзіўся а. Еўфімі на Кубані. Жахі рэвалюцыі змусілі яго пакінуць бацькаўшчыну й эміграваць на чужыну. Першым месцам ягонага прытулку была Югаславія, а пазьней — Францыя й Амэрыка. Жыцьцёвыя перажываньні прыблізілі яго до Хрыстовае Царквы. Ад Уладыкі Васіля ён прыняў сьвятарскі сан.

Асаблівасьцяй пастырскага служэньня Пакойнага было тое, што ён пачуваў сябе слугою Жывога Бога. Будучы паводля нацыянальнасьці Казаком, ён зусім бязінтэрэсоўна на працягу доўгіх гадоў абслугоўваў духовыя патрэбы беларускіх парафіянаў у Кліўлендзе. Дзякуючы ягонай ахвярнасьці, сярод беларускіх парафіянаў зарадзілася думка пабудаваць сваю ўласную царкву, каб праз гэта ўзьняць прэстыж мясцовае беларускае групы й пакінуць памятку будучаму пакаленьню. Гэтая сьветлая ідэя была зрэалізаваная і царква-памятка красуецца сяньня ў Кліўлендзе.

Айцец Еўфімі карыстаўся вялікай павагай і пашанай ня толькі сярод Беларусаў, але й сярод іншых нацыянальнасьцяў. Доказам гэтага можа быць той факт, што на Паніхідзе па ім, якую 3 кастрычніка адпраўляў у Лорэвіне а. Аляксандар Крыт у саслужэньні сьвятароў грэцкага, сэрбскага й македонскага, вялікі пахавальны дом быў перапоўнены народам.

4 кастрычніка цела Пакойнага было перавезенае ў Беларускую царкву ў Кліўлендзе. У гэты вечар была адслужаная Паніхіда ў саслужэньні ўкраінскіх сьвятароў, а 5 кастрычніка з удзелам тых-жа сьвятароў была адслужаная Заўпакойная Літургія. Пахаваны а. Еўфімі на прыгожым могільніку ў Кліўлендзе («Рывэр Сайд»), які знаходзіцца недалёка ад Беларускае царквы, сярод магілкаў Казакоў.

Прысутныя на паховінах былі запрошаныя на жалобнае прыняцьце, наладжанае ў залі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Беларускім Жаночым Згуртаваньнем, дзе прысутныя падзяліліся ўспамінамі аб жыцьці Пакойнага.

**а. Аляксандар Крыт**

## ЗАБОЙЦА ПРЭЗЫДЭНТА

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

даны элемэнт». Праз месяц пасьля сваёй дэмабілізацыі Освальд апынуўся ў Савецкім Саюзе. 31-га кастрычніка 1959-га году ён зьявіўся ў амэрыканскае пасольства ў Маскве і заявіў, што адмаўляецца ад амэрыканскага грамадзянства. Пасьля Освальд пераехаў у Менск, дзе працаваў на заводзе і ажаніўся з савецкай грамадзянкай мэдычнай сястрой Марынай Прусаковай. У студзені 1962-га году Освальд зьвярнуўся да амэрыканскага сэнатара Штату Тэксас з просьбай дапамагчы яму вярнуцца на радзіму, бо ён быццам расчараваўся ў Савецкім Саюзе. Сэнатар Таўэр перадаў гэтую просьбу ў Дзяржаўны Дэпартамант, які пасьля дасьледваньня справы Освальда, згадзіўся вярнуць яку ягоны амэрыканскі пашпарт і аплаціў праезд з Савецкага Саюзу ў Задзіночаныя Штаты Освальду й ягонай жонцы.

Што тычыцца палітычных паглядаў Освальда, дык ён называў сябе камуністым і марксыстым. Ён актыўна супрацоўнічаў з аднэй з амэрыканскіх арганізацыяў прыхільнікаў Кастра.

---

— грыўнях, што ня было ўласьцівым умовам, падпісаным зь Бізантыяй. Дарэчы зазначыць, што ўсё гэта адсутнічае ў тэксьце больш праўдападобнай умовы, якую Кіеў зрабіў з Бізантыяй у 911 годзе.

Уся гэтая гісторыя з паходам князя Алега на Канстантынопаль у 907 годзе й асабліва з «укладамі на рускія гарады», між якіх апынуўся й Полацак, узьнікла ў канцы XI— пачатку XII стагодзьдзя й узьнікла пад узьдзеяннем наступных прычынаў і тэндэнцыяў. У гэты час якраз кіеўскія вялікія князі й асабліва Ўладзімір Манамах марылі пра «рускую еднасьць» і «магутную Русь даўніх часоў», у тым ліку яны марылі й пра «аб'еднаньне» Полацкага княства зь Кіеўскай Русьсю. У практыцы гэтае «аб'еднаньне» ажыцьцяўлялася ваеннай экспансыяй у межы Полацкага княства. Вось-жа з гэтае прычыны ў кіеўскіх летапісах і паяўляюцца падобнага роду гісторыі, якія маюць на мэце ня толькі аднавіць мінулую палітычную веліч Кіеўскай Русі, але й абаснаваць ейнае «гістарычнае права» на Полацкае княства.

Іншай гісторыяй падобнага характару была запісаная гісторыя з князёўнай Рагнедай, гісторыя аб пераданьні ёй і быццам-бы ейнаму сыну Ізяславу Полацкага княства й адсюль тое-ж «гістарычнае права» Кіева на гэтую «Полацка-Менскую Русь». Апошняя легенда таксама разьбіваецца як супярэчлівымі й запазычанымі зь іншых легендаў ейнымі складнікамі, так і ведамымі гістарычнымі фактамі. Напрыклад, ні ў кіеўскіх, ні ў ноўгарадзкіх летапісах не захавалася ніводнае ведамкі пра тое, што «прылучанае» пры Ўладзіміры Сьвятым Полацкае княства плаціла адпаведны падатак Кіеўскай Русі. А такі падатак у тыя часы ў першую чаргу вызначаў палітычную залежнасьць ад мэтраполіі. Палітычная залежнасьць ад Кіеўскай Русі вызначалася яшчэ й пэратасоўкай вялікакняскіх намесьнікаў ці так званых «удзельных князёў» у ейных паасобных землях. Полацкае княства гэтае практыкі зусім ня знала. Гаварыць-жа пра якую-колечы палітычную залежнасьць Полацкага княства ад Кіеўскай Русі ў XI і тым больш у XII стагодзьдзі наагул не даводзіцца. Калі навет дапусьціць, што й запраўды ў канцы X стагодзьдзя Полацкае княства было падпарадкавана Кіевам у выніку знанае зь летапісаў вайны Ўладзіміра Сьвятога з Рогваладам, дык і ў гэтым выпадку ня выпадае зь якога 10-ка ці 20-ка гадоў залежнасьці рабіць нейкую «вечнасьць» і тым больш снаваць канцэпцыі пра «адзінае рускае гаспадарства» й «адзіны рускі народ» таго часу. Дарэчы зазначыць, што калі-б С. Майхровіч падыходзіў да «Слова аб палку Ігаравым» сумленна, а ня зь нейкімі запазычанымі канцэпцыямі, дык і ў гэтым літаратурным творы ён мог-бы спасьцерагчы, што ягоны аўтар зусім ня імкнуўся ўлучыць Полацкае княства ў гэтае «адзінае рускае гаспадарства».

Аднак, пярэчачы ўсім відавочным гістарычным фактам, С. Майхровіч працягвае надбудоўваць сваю канцэпцыю пра «адзіны рускі народ». Калі-ж якія факты ня ўплятаюцца ў ягоную канцэпцыю, ён і у гэтым выпадку знаходзіць выхад, сьпісваючы іх у рубрыку «згубнага мясцовага сэпаратызму й свавольства ўдзельных князёў». Пры гэтым ён даходзіць навет да абразы нацыянальных пачуцьцяў беларускага народу. Гэтак, полацкіх князёў, якія абаранялі незалежнасьць Полацкага княства ці імкнуліся вярнуць да яго Смаленшчыну, ён называе «раскольнікамі» й «разбойнікамі», у той час, як Уладзімер Манамах, які сваімі шматлікімі набегамі ў Полацкае княства сеяў тут пагалоўную сьмерць, зьяўляецца для яго «храбрым і разумным воінам-пісьменьнікам» і, ведама, «вялікім дзяржаўным мужам» і «дастойным патрыётам». Асабліва абураны С. Майхровіч дзейнасьцяй Усяслава Чарадзея. Ягоныя войны, зазначае ён, былі «згубнымі для народу й дзяржаўнага адзінства тагачаснай Русі». Каб больш зьняважыць гэтага беларускага патрыёта й вялікага дзяржаўнага мужа, ён прыстасоўвае да яго розныя абразьлівыя эпітаты ды з насьмешкай расказвае пра ягоную «кіеўскую эпапэю». Аднак-жа вядома, што за кіеўскім «залатым пасадам» Усяслаў Чарадзей зусім ня гнаўся, а таму тут зусім не падыходзіць акрэсьленьне: «эгаістычная прага пяршынства». Кіеўскім вялікім князем Усяслаў Чарадзей стаўся прыпадкова. Стаўшыся ім, ён зусім ня імкнуўся ўтрымаць кіеўскі «залаты пасад» і ў хуткасьці вярнуўся туды, скуль «звалі яго званы Сьв. Сафіі» — ў свой родны Полацак.

С. Майхровіч вельмі захапляецца «рускім патрыятызмам» аўтара «Слова аб палку Ігаравым». Аднак гэты патрыятызм трэба абмежаваць да патрыятызму тых часоў, узалежніць яго ад патрыятызму самога аўтара й не рабіць зь яго «ўсеагульнага» патрыятызму. Тым больш ня выпадае яго пераносіць на сучасны савецка-расейскі патрыятызм. «Рускі патрыятызм» аўтара «Слова аб палку Ігаравым», які быў, праўдападобна, дружыньнікам князя Ігара ці прыдворным песьняром апошняга, не абавязкова павінен быў выходзіць з «гушчы народнай» ці крыляць над усёй «Рускай зямлёй». Ён узьнік пад узьдзеяньнем паходу й паразы князя Ігара і, як і сама песьня «Слова аб палку Ігаравым», узьнік у якасьці творчай задумы.

*Зь беларускага жыцьця*

# Новы сьвятар БАПЦ

На просьбу В. Пр. Арх. Васіля 11-13 кастрычніка ў Карльсруэ (Нямеччына) В. Пр. Мітрапаліт Укр. Аўт. Пр. Царквы Ніканор правёў сьвячаньні сп. Я. Абабуркі з Манчэстару на сьвятара Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Да высьвячэньня ў дыяканы падводзіў пратадыякан Леанід Кароль, які свайго часу браў удзел у Рэзэнгаймаўскіх беларускіх урачыстасьцях хіратоніі 1949 году. Да сьвятарскага рукапалажэньня падводзіў прат. др. Аўген Смаршчок. Частка хору мітрапалічага Сабору ў Карльсруэ ўпрыгожвала урачыстасьці высьвячэньня, што адбываліся ў архіерэйскай капліцы з увагі на стан здароўя ўкраінскага Гіерарха.

Беларускую грамадзкасьць Вялікабрытаніі рэпрэзэнтаваў сп. А. Лашук.

За вялікую ўслугу, зробленую нам уладыкам Мітрапалітам Ніканорам, за дапамогу ўкраінскіх сьвятароў і грамадзкасьці, зычлівую атмасфэру й хрысьціянскую гасьціннасьць, удзельнікамі якое быў наш кандыдат і беларуская дэлегацыя, гэтым шляхам выказваем нашу глыбокую й сардэчную падзяку.

Новавысьвечаны сьвятар дзеля розных пільных справаў выехаў адразу ў Манчэстар, і як нас ужо паведаміў, хутка ўлучыцца ў агульнаправаслаўнае жыцьцё гораду й акругі.

З удзячнасьцяй адзначаем тут яшчэ дапамогу і ўвагу В. Прэпад. а. пратапрэсв. Сяргея Малчаніўскага, адміністратара УАПЦ ў Вялікай Брытаніі, аказаныя нашаму маладому сьвятару ў Ангельшчыне.

Ужо даўно наш кандыдат цікавіўся царкоўнымі справамі й актыўна служыў БАПЦ на клірасе за часоў душпастырскай працы ў Ангельшчыне а. прат. Аляксандра Крыта. Курс тэорыі музыкі й практыкі клірасу ды царкоўнага статуту пачаў праходзіць ён у вечнай памяці а. прат. Захарыя Палякова, настаяцеля казацкага дэканату.

Кандыдат паставіўся із зразуменьнем і даверам да прапановы В. Пр. Арх. Васіля, і прадстаўніка БАПЦ ў Бэльгіі прат. Аўгена Смаршчка ды да голасу беларускага грамадзтва ў Вялікабрытаніі, добра адчуваючы патрэбу настаяцеля БАПЦ у Ангельшчыне, перапыніў зарабковую працу ды перад Вялікаднем прыбыў у Бэльгію, каб прайсьці сыстэматычны курс сьвятарскага прыгатаваньня.

Старшынства праграмнай і экзамінацыйнай камісіі узяў на сябе грэцкі архімандрыт а. Максімос Агіоргусіс, магістар Багаслоўя з Халькі Канстантынопаль, цяпер дактарант у Лювэне. У камісію ўвайшоў таксама а. др. Робэрт Ван Каўэлярт, як выдатны знаўца праваслаўнага царкоўнага абраду. Студыямі кандыдата кіраваў прат. др. Аўген Смаршчок. Самы багаты пэрыяд царкоўнага служэньня Вялікага Посту й Вялікадня кандыдат правёў у знатным манастыры Шэвэтонь, дзеля назіраньня за царкоўным абрадам і карыстаньня з багатай бібліятэкі.

13 верасьня Экзамінацыйная камісія прыняла пісьмовыя апрацаваньні кандыдата, а 20 верасьня кандыдат рэфэраваў папраўкі і здаў вусныя апытаньні з розных галінаў Багаслоўя, у выніку чаго атрымаў прызнаньне дастаткова падрыхтаванага для сьвятарскага стану і далейшай самаадукацыйнай працы.

Сп. Я. Абабурка зьвяртаў на сябе ўвагу сваёй паважнасьцяй і іншымі дадатнімі рысамі свайго характару, аднак ён ня меў адмысловага падрыхтаваньня да сьвятарскага стану. Гэтым хочам сказаць, што ў беларускай грамадзе на чужыне знайшлося-б яшчэ шмат асобаў, якія маглі-б пайсьці шляхам сп. Я. Абабуркі. Справа ў добрай волі й ахвярнасьці! Ня лёгка было сп. Абабурку прыняць гэтую пастанову, але гэта ўжо за ім. Перад ім — вялікая й адказная праца. Яго падтрымала ня толькі духавенства БАПЦ, але й беларуская грамадзкасьць. Ад яе новы сьвятар чакае далейшай падтрымкі, зразуменьня й супрацоўніцтва, бязь веры ў якія ён ня здэцыдаваўся-б несьці цяжкі Крыж душпастырства на чужыне.

Беларуская грамадзкасьць у розных краінах адчувае брак свайго беларускага духавенства й накіроўвае просьбы й пажаданьні на рукі Япіскапаў БАПЦ. відавочна забываючыся, што сьвятаром ніхто ня родзіцца, што кандыдаты на сьвятароў знаходзяцца ў беларускай грамадзе. Знаходзяцца там яны яшчэ дзесяткамі, і беларуская грамадзкасьць на чужыне павінна ўлучыцца ў агульную сусьветную акцыю шуканьня разьвязкі крызісу сьвятарскага пакліканьня. Як ведама, навет Каталіцкая Царква перажывае падобны крызіс і шукае разьвязкі ўвядзеньнем дыяканскага стану ды ў будучыні пойдзе магчыма на далейшыя рэформы.

Не грамадзкасьць ад БАПЦ, а БАПЦ ад беларускай грамадзкасьці чакае кандыдатаў на сьвятароў! Пытаньне гэтае павінна арганічна ўвайсьці ў жыцьцё беларускай веруючай грамады на эміграцыі. Разьвязка праблемы «нізоў» беларускага царкоўнага жыцьця аўтаматычна прынясе разьвязаньне пытаньня гіерархаў і адміністрацыі БАПЦ.

Беларуская грамадзкасьць Ангельшчыны дала ўжо трох сьвятароў БАПЦ. Яна нясла, нясе і хоча несьці цяжар матарыяльнага забясьпячэньня сваіх сьвятароў. Апошні кандыдат прабываньнем у Бэльгіі і забясьпячэньнем яго ўсім неабходным для выконваньня сьвятарскіх абавязкаў спрычыніў значныя выдаткі, да ліквідацыі якіх беларуская грамадзкасьць Ангельшчыны салідарна пачуваецца. Добра было-б, каб Беларусы Ангельшчыны сталіся ў гэтым дачыненьні прыкладам для Беларусаў у іншых краінах.

Выказваем тут шчырую падзяку ахвярадаўцам — вернікам БАПЦ у Задзіночаных Штатах Амэрыкі за 105 даляраў, атрыманых намі праз В. Пр. Уладыку Васілія дзеля пакрыцьця коштаў зьвязаных з высвячэньнем новага сьвятара. Гэты добры прыклад варты пераняцьця. бо ў грамадзе лягчэй!..

Пасьля гэтага супольнага высілку й посьпеху маем маральнае права зьвярнуцца з заклікам да ўсіх беларускіх асяродкаў на чужыне пільней прыглядацца і часьцей ставіць пытаньне індывідуальна і ў грамадзе адносна новых кандыдатаў на сьвятарства БАПЦ, уплываць на моладзь, на адзінкі чулыя на вялікае служэньне й ахвярнасьць. Праўда, сьвятарства вымагае асабістых ахвяраў, але яно ня выключае ні сямейнага жыцьця, ні далейшай прафэсыйнай працы.

Як кіраўнік студыяў і самы блізкі наглядчік вялікага высілку й пільнай працы нашага новага сьвятара, выказваю яму падзяку й прызнаньне за праробленае ды выказваю пажаданьні плённай душпастырскай працы ў будучыні. Гэты прыгожы прыклад ахвяры служэньня Богу, Царкве й Бацькаўшчыне не павінен застацца доўга бяз рэха, чаму — шчасьці Божа!

**Прат. др. Аўген Смаршчок**

# Міжнародны фэстываль у Лёс Анджэлес



**Маленькія танцоркі**

У сярэдзіне кастрычніка мясцовыя Беларусы ўзялі ўдзел у фэстывалі Інтэрнацыянальнага Інстытуту ў Лёс Анджэлес.

Беларускую выстаўку на фэстывалі наладзілі супольна БАЗА і БККА. Было паказана шмат беларускіх саматканых дзяружак, паясоў і іншых вырабаў. Ні аднаму Беларусу прыгадваў ягоную маладосьць на Бацькаўшчыне малюнак зжатага жыта і іншыя краявіды.

Выстаўка трывала два дні і празь яе прайшлі тысячы людзей.

Асаблівай уцехай для Беларусаў і іншых удзельнікаў фэстывалю было выступленьне беларускіх дзяцей зь беларускімі народнымі танцамі. Гэтае выступленьне падрыхтаваў аддзел БАЗА. Выступленьнем маленькіх танцораў кіравала с-ня Нона Мяленьцева, а акампаніяваў на акардыёне сп. Алімп Мяленьцеў.

Вышытая народнымі ўзорамі вопратка дзяцей выклікала прыемнае, калі не сказаць расчульваючае ўражаньне. На сцэне й на двары група маленькіх беларускіх «артыстых» пратанцвала нашу «Бульбу» й «Юрачку», а адна «артыстка» — солё «Польку Янку». Ахвота, зь якой дзеці выконвалі сваю праграму, была належна ацэненая публікай. Кіраўніцтва фэстывалю пахвальна выказалася аб беларускай праграме. Гэтую пахвалу заслужылі танцоркі: Іра і Нюся Стусы, Аня і Люся Віньніцкія і Ядзя Найдзюк.

Застаецца пажадаць, каб такія выступленьні адбываліся часьцей, каб ніводны міжнародны форум не заставаўся бяз удзелу Беларусаў.

*Фэльетон*

# Саўгасныя геолягі

Савецкі Саюз — краіна вялізарных магчымасьцяў, але яшчэ большых кур'ёзаў, ненармальнасьцяў і абсурдаў. Вось адзін трагікамічны прыклад зь Беларусі. Нешта падобнае магло хіба здарыцца толькі пры калгаснай сыстэме.

У саўгасе «Верданічы» Сьвіслацкага раёну здарыўся «цуд у рэшаце». Прапала сіласная яма, а ў ёй 80 тонаў сіласу. Прапала, быццам-бы яе карова языком зьлізала. Паслалі экспэдыцыю на пошукі. Нешта накшталт экспэдыцыі геолягаў, якія шукаюць золата, або мінэральных багацьцяў. Саўгасныя «геолягі» вярнуліся зь нічым: ямы не знайшлі. Узьнікла пякучая праблема, бо буйная рагатая і дробная жывёла, адзінай надзеяй якой была сіласная яма, пачала выцягваць капыты з голаду. Здарылася гэта, як мы ведаем, пры «пабудаваным сацыялізьме» і «разгорнутым маршы ў камунізм». Бедная жывёла не з сваёй віны не дачакалася «сьветлых дзён». Бюракраты мелі занятак, бо трэба было напісаць шмат дзесяткаў мэтрыкаў сьмерці саўгасных кароў.

Але ўправа саўгасу не паддаецца і далей высылае экспэдыцыю за экспэдыцыяй на пошукі ямы. А ямы няма. Прапала. Эпідэмія голаду сярод жывёлы павялічаецца, сьмяротнасьць таксама, а ямы няма. Толькі моцныя духам і целам каровы выжылі і дажылі да вясьнянай травы.

І вось, урэшце, пошукі саўгасных геолягаў укаранаваліся посьпехам. Пасьля шасьці месяцаў пошукаў — ад сакавіка да жніўня — сіласную яму знайшлі. А знаходзілася яна толькі 25 мэтраў ад кароўніка, дзе з голаду гінулі бедныя «бурэнькі».

Далей цікавае тое, што кіраўнік аддзелу «Вердамічы» Маліноўскі і брыгадзір фэрмы Мікіцік, цьвердзяць, што ў гэтай трагічнай яме было засіласавана 80 тонаў масы, а калі яе знайшлі, дык там было нешта каля 5-ці тон. Дзе 6 месяцаў прападала ацэмантаваная сіласная яма, як зь яе прапала 75 тонаў сіласу — ніхто ня ведае.

Здарэньне — быццам-бы ўзятае зь нейкае казкі. Аднак, калі хто ня верыць — хай прачытае 209-ы нумар «Чырвонай зьмены».

Аўтар падае факты. але ня шукае прычыны гэтых «цудаў у рэшаце». А прычынаў далёка шукаць ня трэба: яны бліжэй, чымся «зачараваная» сіласная яма ад саўгаснага кароўніка. Яна — у заганным калгасным ладзе, у прыгоннай сыстэме, якой партыйныя верхаводы трымаюцца вошчарапкам, як сьляпы плоту.

Ілюстрацыяй да гэтае гісторыі можа быць наступны анэкдот:

Судзьдзя пытаецца ў абвінавачанага:

— Як вы асьмеліліся выцягнуць руку па дзяржаўную маемасьць?

Падсудны адказвае:

– А што я мог зрабіць? Калі-б я ня выцягнуў рукі, дык выцягнуў-бы ногі.

Усё гэта магло-б быць сьмешным, калі-б ня было сумным...

**пс**

# Весткі зь Беларусі

### ЗНАКІ ПАШАНЫ ТРАЦЯЦЬ ПАШАНУ

Усе дыктатары ўсіх часоў маюць адну супольную рысу: прапагандовую барабаншчыну. З нагоды, ці і без нагоды мусяць быць маніфэстацыі, паходы, натоўпы, сьцягі, сьветачы, прамовы, воплескі. Незалежна ад таго, якой мовай крычыць натоўп: «авэ», ці «эвіва», «вів», ці «да здраствует», «гайль», ці «банзай» — ён мусіць з энтузіязмам вітаць дыктатара і дыктатуру. Таму ня дзіва, што гэта ўжо людзям абрыдзела.

Нядаўна «Комсомольская Правда» зьмясьціла артыкул, у якім злосна лае беларускае грамадзтва, а перш за ўсё беларускую моладзь за непашану да гэтых дыктатарскіх атрыбутаў.

Артыкул мае загаловак: «Ці ў пашане ганаровая грамата?» Прыгадаем некалькі мамэнтаў з гэтага артыкулу.

У Горадзенскай вобласьці сёлета здарылася «гістарычная» падзея. Абласны камсамол атрымаў пераходны чырвоны сьцяг за пасевы кукурузы і цукровых буракоў. Дэлегацыя сьцяг атрымала, прывезла яго і ціхенька паставіла недзе ў кутку.

«Комсомольская Правда» не знаходзіць словаў абурэньня за гэтую прафанацыю. — Як-жа гэта — ня было мітынгаў, прамоваў, заклікаў, бурнага ўздыму?! Проста прывезьлі сьцяг, і назаўтра пра яго забыліся! А найгоршае, што не зарганізаваўшы ўрачыстасьцяў, кіраўнікі абкому страцілі нагоду да мабілізацыі моладзі на «новыя працоўныя забавязаньні...»

«Комсомольская Правда» падае яшчэ шмат прыкладаў, як яна піша, «панурай абыякавасьці і махровага фармалізму» сярод беларускага грамадзтва.

Трактарысты калгасу «Піянэр» Міхась Салагуб вярнуўся із зьлёту перадавікоў, дзе атрымаў ганаровую грамату. Грамату ён аправіў у рамкі, паказаў адміністрацыі калгасу, сказаў сваім сябрам і... ніякай рэакцыі.

«Комсомольская Правда» абураецца, чаму ня быў наладжаны калгасны мітынг, чаму не зьявіўся артыкул у сьценгазэце, чаму аб гэтым не паведамлялі калгасныя рупары, чаму дзяўчаты не пабеглі на поле, не нарвалі ахапкаў кветак і не засыпалі імі героя?

Ня было ніякіх павіншаваньняў, нават ніхто не пацісnуў Міхасю Салагубу рукі.

Яшчэ адзін прыклад: Баранавіцкі камітэт узнагародзіў даярку Шуру Швэд пахвальным лістом. Ліст атрымала адміністрацыя калгасу імя Мічурына, укінула яго ў шупляду і забылася аб ім. Толькі праз паўгода нехта знайшоў гэты ліст і бязь ніякіх урачыстасьцяў аддаў даярцы. Ізноў «Комсомольская Правда» абураецца, чаму такой нагоды ня выкарысталі дзеля падняцьця працоўнага энтузіязму?

На заканчэньне — ізноў пяруны: «Камсамольская ўзнагарода дарагая. Яе нельга мараць рублём. Трэба, каб яна заўсёды з сэрцаў высякала гарачыя іскры...»

Сказана патэтычна, але, як бачым, у практыцы выглядае інакш. Падсавецкім людзям ужо штораз менш імпануюць чырвоныя палотнішчы, бліскучыя бляшкі на грудзях, размаляваныя аркушы паперы, прапагандовая барабаншчына. Гераізм — гэта імпульс, які можа выклікаць палымяная прамова, удалы лёзунг. Але ня можна дзесяткамі гадоў трымаць людзей на барыкадах, ці працоўных вахтах. Тут зьнеахвоціцца найбольшы энтузіясты і герой.

Аднак савецкія кіраўнікі ня хочуць гэтага зразумець і далей кормяць грамадзтва абяцанкамі, а пры гэтым ставяць штораз большыя вымаганьні.

Таму ня дзіва, што людзі прыймаюць гэта — як піша «Комсомольская Правда» — з «панурай абыякавасьцяй».

Прычынаў гэтага зьявішча савецкія кіраўнікі павінны шукаць у сваіх хімэрных мэтадах і мэтах, вартасьцям якіх запярэчвае жыцьцё.

### ФАБРЫКА — «ЗДАНЬ»

Паводля паведамленьня газэты «Сельская жізнь», у Беларусі недалёка ад Віцебску была выкрытая тэкстыльная фабрыка, якая працуе толькі на паперы. Згодна з афіцыйнымі дакумантамі, фабрыка была здадзеная ў эксплятацыю яшчэ ў верасьні 1954-га году. Фактычна-ж да гэтага тэрміну было пабудавана толькі некалькі сьценаў. Аднак, як паведамляе газета «Сельская жізнь» фабрыка каштуе дзяржаве 17 тысяч рублёў у год. Пры фабрыцы ёсьць дырэктар, бухгальтар, аграном, вартаўнік і дзінаццаць работнікаў. На працу выходзіць толькі вартаўнік. Рэшта зьяўляецца толькі раз у месяц, каб атрымаць заработную плату. Дырэктар фабрыкі заявіў прадстаўніку газэты «Сельская жізнь», што акцыя гэтай фабрыкі абмяжоўваецца атрымоўваньнем ільну і высылкай яго ў іншыя фабрыкі, якія знаходзяцца ў Латвіі і ў Літве.

### ДАСЯГНЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ МЭДЫЦЫНЫ

У Менску здарылася надзвычайная падзея ў галіне мэдыцыны. Малады чалавек Віктар Л. – яму 21 год — 43 мінуты пасьля «клінічнае сьмерці», гэта значыць 43 мінуты пасьля таго, як спынілася біцьцё сэрца, быў ізноў павернуты да жыцьця. Лекары дасягнулі гэтага пры дапамозе адмысловае штучнае помпы для ажыўленьня сэрца. Апэрацыю правёў доктар Сяргей Лібаў.

Падзея гэтая запраўды надзвычайная, бо ў дасюлешняй сусьветнай мэдыцынскай практыцы здараліся выпадкі, што чалавек быў зьвернуты да жыцьця пяць ці шасьць мінут пасьля «клінічнай сьмерці», але каб ажывіць чалавека 43 мінуты пасьля таго, як спыніла сваё біцьцё сэрца — гэтага яшчэ ня было, гэта першы такі выпадак у мэдыцыне.



### ПАВІНШАВАНЬНЕ

**Карыстаючыся з паслугаў «Б-ны», гэтым хацеў-бы павіншаваць з Калляднымі Сьвятамі ейных падпішчыкаў у Аўстраліі й скласьці ім свае найшчырэйшая пажаданьні.**

**М. Нікан**
Сподсвуд/Вікторыя




## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz**, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan**, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity**, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk**, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich**, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
Mr. W. Duniec, 3444 Marvin Ave., Cleveland 9, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula**, 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France**, 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan**, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларуская газэта палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.